Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 23. Вільня, Субота, 4-га красавіка 1925 г. Год I.

## Першыя вынікі.

У кожным нумары нашае газэты мы падавалі весткі аб тым, як паны *войты* „гэраічна“ змагаліся з беларускімі школамі і, нарушаючы ўсе істнуючыя законы і ўрадовыя распараджэньні, *масова адмаўляліся сьведчыць подпісы бацькоў на дэкляpацыях аб беларускіх школах.*

Асаблівую энэргію гмінныя ўлады выявілі ў межах „афіцыяльна польскай“ Віленшчыны. Дык нічога дзіўнага, што тут *беларускае насяленьне* аказалася *найбольш пакрыўджаным і пазбаўленым магчымасьці скарыстаць з свайго права на родную школу.*

Факты гвалтаў з боку гмінных уладаў пададзены былі да ведама паноў Грабскага і Тугутта. На падставе пададзенага нашымі дэпутатамі матэрыялу—відаць, запраўды пераконываючага!— урад *прадоўжыў* тэрмін падачы беларускіх дэклярацыяў да 21 красавіка, але *выключыў* з гэтага іменна найбольш пацярпеўшую *Віленшчыну*.

Ясна, што трудна было спадзявацца вялікіх вынікаў ад гэных знамянітых „языковых законаў“, і мы наперад казалі аб гэтым, клічучы беларускае насяленьне да арганізацыі *прыватных школаў у роднай мове.*

„Dziennik Wileński“ з 2 красавіка з удаными трыумфам сцьвярджае прадугледжаныя намі „слабыя вынікі дэклярацыйнае акцыі беларусаў і літвіноў“ у межах „польскае“ Віленшчыны. „Паводле рапартоў, атрыманых па тэлеграфу ў працягу ўчорашняга дня з усіх паветаў, *трэба лічыцца з патрэбай адкрыцьця 26—27 двуязычных школ на абшары Віленшчыны.* З гэтага на Вялейскі павет прыпадае 17 школ, а на Сьвянцянскі 8 школ“.

„Dz. Wil.“ мімаволі прагаварыўся, што нават і там, дзе беларускаму сялянству ўдалося пераламаць апор улады і дабіцца пасьведчаньня подпісаў на дэклярацыях,—нават і там *улада зусім ня зьбіраецца адкрываць беларускіх школ*: усе яны маюць быць *двуязычныя*, хаця бацькі „палякі“ яшчэ й не падалі сваіх дэклярацыяў, бо для іх тэрмін удвая даўжэйшы, чым для беларусаў (да 31 мая). Эндэцкая газэта *наперад ведае*, што на кожную беларускую школу *„знойдзецца“ патрэбная лічба „палякоў“*, бо-ж не дарма выканаўчае распараджэньне да языковых законаў *не вымагае праверкі праўдзівасьці польскіх дэклярацыяў, ані пасьведчаньня подпісаў на іх!*

Пры такіх варунках і атрыманы беларусамі ў Віленшчыне рэзультат — не такі ўжо слабы. Істнуе толькі небясьпека, што і тое, што ўжо афіцыяльна прызнана, *ня будзе ў восені зьдзейсьнена* з прычыны... „нястачы выкваліфікаваных вучыцялёў“: бо, хаця ў нас сядзіць бяз працы *боо настаўнікаў*, урад іх бракуе і меўся тварыць свае вучыцельскія курсы ў Вільні і ў Кракаве *з 10-месячнай навукай.* У Вільні, як лгала банда Косьцевічаў, Валэйшаў і Паўлюкевічаў, курсы мелі распачацца 10 марца, але аб іх і слуху няма, хаця сёньня ўжо 4 красавіка. Дык ясна, што да восені ўрад „сваіх“ вучыцялёў не прыгатуе, а істнуючых забракуе,—і астануцца школы толькі... на паперы!

Аб выніках школьнае акцыі беларусаў у другіх ваяводзтвах даведаемся цераз тры тыдні. Але і там абставіны мала розьняцца ад віленскіх, дзе справа назначэньня вучыцялёў знаходзіцца ў такім жа палажэньні, як у Віленскім вокрузе.

Паўтараем: народ наш не павінен лішне спадзявацца на ўрадавыя школы, хаця мае на гэта права і плоце на гэта грошы, — а павінен спадзявацца перад усім на сябе. І адказам на „слабыя вынікі дэклярацыйнае акцыі“, пастаўленае ў немагчымыя варункі, хай будзе стварэньне сеці нашага *прыватнага* школьніцтва.

Гэта, ведама, *не павінна аслабіць нашае энэргіі ў барацьбе за належачую нам па праву ўрадовую беларускую школу.* Наадварот, мы павінны рабіць усё, каб дабіцца ўрадавых школ у роднай мове, бо ўтрыманьне прыватных школ без дапамогі дзяржавы (хаця яе да гэтага абязывае канстытуцыя і трактаты!)—гэта страшэнны цяжар для нашага зглеўшага пасьля вайны і перацяжонага ўсялякімі дзяржаўнымі і „самаўрадавымі“ паборамі і падаткамі сялянства.

*Выкарыстайма-ж энэргічна апошнія тыдні!*

# Змаганьне за школу.

### Школа і каапэрацыя

(*Голас чытача „Бел. Долі“*)

У № 13 „Беларускае Долі“ зьмешчана стацьця пад загалоўкам „Сам сабе“.

І запраўды, нам няма чаго спадзявацца на „добрую волю“ гаспадароў палажэньня, а мы ўсе, як адзін чалавек, мусім узяцца за наладжаньне свайго жыцьця і, галоўным чынам, за асьвету нарастаючага маладога пакаленьня—нашае будучыны, бо наша моладзь без адпаведных кіраўнікоў і настаўнікаў паступова дэмаралізуецца.

Есьць многа прычын, якія не даюць выпаўніць гэту задачу,—як, прыкладам, нядобрая воля органаў улады і інш., але ня менш важнай прычынай гэтага зьяўляецца і нашае **матэрыяльнае бяссільле.** Вось-жа пры сучасным палажэньні, якое вынікае з языковых законаў і інструкцыяў да іх, калі яно ў далейшым не пагоршае яшчэ, — мы павінны ўсе сілы пакласьці на тое, каб прыдбаць грошы на адчыненьне і ўтрыманьне прыватных беларускіх школ у магчыма вялікшай лічбе.

Дзеля гэтага трэба, каб у беларускіх вёсках разьвівалася каапэрацыя, якая мусіць іясьці наперадзе школьнае работы ці, у найгоршым выпадку, не адставаць ад апошняе,—бо толькі такім шляхам народ наш здолее запраўды нешта стварыць **сам сабе**. Без каапэратыўнае арганізацыі мы былі слабыя і будзем слабыя, бо сялянская маса перагружана вялізарнымі падаткамі, ды ня менш стогне і ад таго, што прадметы штодзеннага ўжытку, як то: соль, газа, зялеза і інш., прыходзіцца купляць лішне дорага, раўнуючы да цэн хлеба, які вёска мае напродаж. Калі-ж наладзіць па вёсках свае каапэратыўныя крамы, дык усе тыя грошы, якія вытрачывае сялянства на прадметы першае патрэбы ўліваліся-бы ня ў прыватныя кішані, а ў **свой грамадзкі фонд**, з якога можна было-бы чарпаць грошы і **на ўтрыманьне беларускіх прыватных школ.**

**Л. Якубовіч.**

(з Слонімшчыны)

### Добры прыклад.

Жыхары вёсак Пачапова, Емельянавіч, Пархінаўшчына і Навасёлкі Пачапоўскай воласьці, Навагрудзкага павету, на агульным сабраньні пастанавілі ператварыць істнуючую ў Пачапове польскую школу ў беларускую, дзеля гэтага дзела выбралі ад школьнага абводу паўнамоцніка Мікалая Тарасэвіча, які паехаў у Навагрудак, дастаў дэклярацыі і памог напісаць іх.

Як былі дэклярацыі напісаны, паўнамоцнік даведаўся ў воласьці, у які дзень будзе войт, каб сцьвярдзіць подпісы.

У назначаны дзень для сцьвярджэньня людзі на кліч сваей Бацькаўшчыны, як адзін, пасыпалі ў воласьць.

Праўда, войт у нашай воласьці праваслаўны беларус, дык не спраціўляўся і пачаў завяраць, але ўсётакі не ўмаўчаў і кажа: „з гэтага нічога ня будзе, за гэтыя дэклярацыі будзеце плаціць штрафы!“

Але людзі цьвёрда стаялі за сваю школу. Было сцьверджана 59 дэклярацыяў на 78 дзяцей.

Пасьля сцьверджаньня паўнамоцнік адвёз усе дэклярацыі школьнаму інспэктару ў гор. Навагрудак і здаў пад квітанцыю.

На другі год, як ня будзе ператворана польская школа ў беларускую, дык ніводнага дзіцяці ня пусьцім у польскую школу.

Няхай наш прыклад паслужыць для другіх вёсак.

**Дэкляранты.**

### Афіцыяльная агітацыя проці беларускіх школ.

(З *Пружаншчыны*)

Даводзім да вашага ведама, што 16 гэтага сакавіка войт гміны з сэкрэтаром прыехалі ў нашу вёску Бакуны сьведчыць дэклярацыі, якія мы напісалі для сваіх дзетак. Сэкрэтар гміны прышоў на сходку, якая да таго часу была сабрана ў доме солтыса вёскі Бакуны.

Пан сэкрэтар гміны перш, чымся сьведчыць дэклярацыі, пачаў чытаць сабраўшайся люднасьці рэфэрат а беларускіх школах, лаючы нашу мову і абзываючы люднасьць быдлам, дурнямі і другімі славамі, каторых ня можна напісаць на гэтым лісьце.

Гаварыў ён нам, што мы беларускімі школамі калечым сваіх дзетак. Ну, дзякаваць Богу, нашы дзеткі не калекі, бо паны польскія научыцелі не пасьпелі іх пакалечыць.

Ня ведама, хто скалечыў п. сэкрэтара, бо ён як быццам сам паляк і ня ведае нашае мовы, але ходзіць на аднэйназе!

**Чарот.**

### „Лягчэй вярблюду прайсьці праз голчына вуха, чым беларусам дабіцца беларускай урадовай школы“.

(З *Горадзенскага павету*)

Даведаўшыся аб новай форме дамаганьня беларускай школы (падаваць дэклярацыі),—грамадзяне вёсак Алекшыцы і Жукевічы Велькія, Горадзенскага павету, дружна запаўнялі свае дэклярацыі. Толькі тутэйшы польскі вучыцель п. Міхалковіч стараўся ўсемі сіламі перашкодзіць. Праваслаўныя яго ня слухалі, наогул наш вучыцель карыстаецца вельмі вялікаю антыпатыяй сярод дзяцей і грамадзян. Запыніў на дарозе Юшко (каталіка), які падпісаў дэклярацыю, і пачаў прабіраць: „Jaki z pana polak, wstydź się pan, żeby zapisywać się do białoruskiej szkoły“ і г. д. Так нагаварыў, што Юшко мусіў іясьці да гміны адбіраць дэклярацыю, але там не аддалі.

Войт Мала-Берастаўіцкі ня толькі сцьвердзіў дарма, але падпісываў у часе службовага аб'езду па гміне—у вёсках.

20 марца, як паўнамоцнік, я завёз усе дэклярацыі, у ліку 39 шт. на 52 дзяцей, п. Школьнаму Інспэктару. Аддаўшы дэклярацыі, папрасіў пасквітаваньня. П. інспэктар сказаў: „Zobaczę w ustawie“.—Прагледзеўшы адзін і другі ўстаў сказаў: „Nie dam, bo tego ustawa nie obowiązuje“. Я гаварыў, што мушу мець пасквітаваньне, каб паказаць людзям, дзе падзеў

